**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

31 (591) 4 жніўня 2011 года

Кошт свабодны.

## Мёрскі раён

# Арыенцір – расійскі рынак

■ Чэслаў Якубовіч

**Толькі дынамічнае развіццё ў адпаведнасці з патрабаваннямі часу і спажыўцоў зараз дапамагае вытворцам знайсці сваю нішу на рынку і нармальна жыць.**

У такім кірунку апошнім часам стараецца дзейнічаць і Мёрскі мясакамбінат, які пасля рэарганізацыі стаў акцыянерным таварыствам. Дырэкцыя прадпрыемства зараз рыхтуецца да ўдзелу ў верасні ў буйной XX Міжнароднай выставе "Увесь свет харчавання", якая пройдзе ў Маскве. Там камбінат, які актыўна праводзіць трэці год тэхпераўзбраенне і мадэрнізацыю вытворчасці, разлічвае знайсці новых партнёраў і спажыўцоў. Спачатку на расійскі рынак мясапераапрацоўшчыкі пастаўлялі толькі тушы свіней і быкоў. Цяпер сталі пастаўляць і ў шэраг заходніх абласцей РФ, Падмаскоўе і ў Санкт-Пецярбург і свае каўбасы, мясныя далікатэсы. Расіяне ацанілі, што гэта прадукцыя пад брэндам "Мёры – мясныя прасторы" цалкам натуральная, са свежазамарожанага мяса і без прымянення кансервантаў і штучных фарбавальнікаў. Зрэшты, асарт ымент на камбінаце давялі ўжо да больш за 200 найменняў. На новыя рынкі збыту дапамогуць выйсці і новы энергаёмкі халадзільнік на 500 тон мяса з цэхам абвалкі сыравіны коштам 2 млн. еўра, будаўніцтва якіх намечана завяршыць праз год. Адначасова расце ўзровень падрыхтоўкі спецыялістаў, 10 чалавек завочна вучацца ў спецыялізаваных ВНУ і тэхнікумах. Па размеркаванні прыехалі працаваць 2 маладыя выпускнікі ўніверсітэта харчавання з Магілёва, для якіх набылі добраўпарадкаваную кватэру.

## Браслаўскі раён

# Зямля – экзаменатар строгі

■ Станіслаў Раманчук

**Сёлета на Віцебшчыне пастаўлена задача на працягу трох тыдняў завяршыць жніво зерневых і зернебабовых.**

Існуючая матэрыяльна-тэхнічная база, высокая культура земляробства і майстэрства камбайнераў дазваляюць нават раней правесці ўборку пры спрыяльным надвор'і ў буйнейшай гаспадарцы азёрнага краю, сельгаспрадпрыемстве "Маяк Браслаўскі". Але тут цудоўна разумеюць, што не ўсё залежыць ад старання і арганізаванасці механізатараў і наколькі складана будзе выйсці на рэкордных паказчык намалотаў пазалетась (амаль 13,6 тысяч тон збожжа). За апошнія чвэрць стагоддзя не было ніколі такой складанай веснавой сяўбы, як мінулай вясной. Тады пасяўныя плошчы павялічваліся з-за загінулых азімых у 2 разы, да 3 тысяч гектараў. Шэраг палеткаў перасявалі выбарачна, асобныя занава. На многіх участках збажыны прыйшлося вяскоўцам падпраўляць "пляміны", дзе пасля гібелі ўраджайнасць была б мізерная. З зімы толькі 90 гектараў азімага рапсу ўцалела, а на плошчы 365 га прыйшлося пасевы паўторна засейваць на працягу тыдня працы. У выніку хлебаробы добра ведаюць, якой цаной даецца добры ўраджай і з першых дзён уборкі стараюцца арганізавана і зладжана весці работы ў полі з рання да позняга вечара. Па традыцыі стварылі мабільныя рамонтныя брыгады, каб няспраўнасці аператыўна выпраўляць прама на полі. Акрамя дастойнай аплаты працы, удзельнікаў жніва забяспечылі гарачым харчаваннем і абедамі двойчы, а раніцай – яшчэ і бясплатнымі бутэрбродамі.

## Пастаўскі раён

# Цэнавы шок прайшоў ?

■ Кастусь Александровіч

**У гэтым годзе беларусам прыйшлося на сабе адчуць самы высокі ўзровень інфляцыі за апошнія 10 гадоў, калі адны толькі прадукты харчавання падаражэлі за паўгода амаль на 37 %.**

Аднак па-ранейшаму ў гандлёвых кропках шматлюдна, падобна на тое, што пакупнікі прызвычаіліся да новых шакіруючых цэннікаў на тавары. У Пастаўскім раёне ўвогуле не прыгадваюць, каб напрыканцы ліпеня так імкліва ўзрасталі тэмпы тавараабароту. У самым цэнтры горада, у супермаркеце райпа "Цэнтральны" па суседстве з іншымі шматлікімі дзяржаўнымі і прыватнымі магазінамі зафіксавалі новы рэкорд продажу. На працягу двух выхадных дзён тут атрымалі грашовай выручкі на суму 150 млн. рублёў. Праўда, у буйной гандлёвай зале было шмат прыезджых кліентаў па-за межаў раёнаў. Аднак відавочна, што грашовыя запасы ў людзей не перавяліся. У другім магазіне, "Гаспадарчыя тавары", каторы тыдзень устойлівы попыт на мэблю. За суботу-нядзелю яго работнікі прадалі яе на 70 млн. рублёў. Адзін з пакупнікоў выклаў нават 18 млн. рублёў за элітны набор корпуснай мэблі для кватэры. Ва ўмовах значнай канкурэнцыі дзякуючы шырокаму асартыменту тавараў на прылаўках таксама дасягнуты далейшы рост тавараабароту і ў існуючай сетцы прамтаварных магазінаў дзеючага філіяла РУП "Ваенсервіс". Ды і цэны цяпер у дзяржаўных магазінах меншыя, чым у прыватнікаў і на рынках.



# Лічба нумара

**4500** столькі механізатараў, па дадзеных Белстата, не хапала ў Беларусі сёлета перад пачаткам уборкі збожжа. Як і раней, у гэтым годзе яна стартавала на поўдні краіны яшчэ ў сярэдзіне ліпеня з абмалотаў азімага рапсу. Таксама беларускія гаспадаркі адчувалі недахоп каля 1 тысячы аператараў зернесушыльных комплексаў. Гэтую праблему, праўда, удалося вырашыць, паколькі не хапала ў асноўным памочнікаў камбайнераў, а вакансіі на зернетаках дапамаглі запоўніць прысланыя з горада спецыялісты з прамысловых прадпрыемстваў.

Да таго ж, людзі ў гэты перыяд імкнуцца трапіць на працу ў поле і на сушылкі зерня, паколькі там за месяц напружанай працы лепшым працаўнікам удаецца зарабіць да 5 і нават болей мільёнаў рублёў. Сёлета, як і ў папярэднія гады, удалося вырашыць і пытанне забеспячэння калгасаў палівам, у асноўным за кошт біядызелю. Гэта салярка ( па разліках 422 тысячы тон) прадавалася гаспадаркам у прыярытэтным парадку. Фронт работы для вяскоўцаў у 2011 годзе аказаўся немалы: ім трэба ўбраць 2,5 млн. гектары зерневых.

Дзяржава пастаралася забяспечыць іх неабходнай тэхнікай. У прыватнасці, толькі адна наша Віцебская вобласць атрымала сёлета 500 новых айчынных зернеўборачных камбайнаў. За некалькі апошніх гадоў у Прыдзвінні (што прыемна) парк такіх новых высокапрадукцыйных адзінак тэхнікі абнавіўся на 1300 штук. Аднак усё роўна нагрузка на камбайнераў вялікая і дасягае на адзін камбайн амаль 215 гектараў. Таму ў самай паўночнай вобласці краіны на жніво прыйдзецца патраціць не менш як 23 дні пры спрыяльным надвор'і. Па Беларусі ёсць магчымасць завяршыць жніво за 3 тыдні, калі еўрапейскія фермеры спраўляюцца з гэтым за паўмесяца.

А вось спадзяванні на высокі валавы ўраджай збожжа ў аб'ёме 10 млн. тон зноў не спраўдзіліся. Цяпер гавораць, што ў лепшым выпадку ўдасца сабраць зерня з улікам кукурузы і прысядзібных надзелаў насельніцтва, а магчыма, і прыпісак, 8,5 млн. тон. На гэта ёсць аб'ектыўныя прычыны: зноў жа з-за капрызаў надвор'я. Моцныя замаразкі вясной прывялі да гібелі азімага рапсу на больш як трэці палеткаў. З-за снежнай плесені таксама прыйшлося перасяваць іншыя азімыя культуры на плошчы 230 тысяч гектараў.

Сёлета моцна дасталася і коласу яравых, асабліва ў Брэсцкай і Гомельскай абласцях. У шэрагу раёнаў там палі не бачылі дажджу на працягу 5-6 тыдняў. Першыя дні працы на жніве пацвердзілі сумны прагноз: участкі падгарэлі, колас не наліўся, на паўднёвых палях краіны бункерная ўраджайнасць упала на 2-3 цэнтнеры. Па традыцыі, у нас спачатку ўбіраюць лепшыя палеткі, хоць у меншай ступені ад прыродных катаклізмаў пацярпелі Гродзеншчына, Міншчына і Віцебшчына. На набыццё паліва Белаграпрамбанк адшукаў 70 млрд. рублёў для спецыяльнай крэдытнай лініі.

Аднак на жніво калгасам краіны толькі на закуп бензіну і саляркі прыйдзецца патраціць усяго 2,5 трлн. рублёў. Крызіс усё ж адчуваецца, болей грошай у дзяржавы дапамагчы вяскоўцам няма. Прыйдзецца многім старшыням і мясцовым бюджэтам круціцца, а магчыма, і працаваць з калёс там, дзе малыя надаі і дрэнна гадуецца жывёла на мяса. Яшчэ вясной былі павышаны закупачныя цэны на зерне на 28 %. З улікам гэтага трэба чакаць і павышэння рознічных цэн на хлеб, бульбу. "Другі" беларускі хлеб плануюць сёлета атрымаць у аб'ёме 1,5 млн. тон, але 80 % клубняў вырошчваюць людзі самі.

Ва ўрадзе абяцаюць "закрыць пытанне" з забеспячэннем уласнай грэчкі і проса, на якія ўзраслі закупачныя цэны і вырошчваць гэтыя культуры стала выгадна ўсім, нават нешматлікім беларускім фермерам. Напружаны час настаў і для льносеючых гаспадарак, якія разлічваюць атрымаць у гэтым годзе 60 тысяч тон ільновалакна. Увогуле, уборачны сезон будзе больш напружаны, чым у мінулым годзе, з-за больш пераўвільгатнёнага зерня. Толькі на Гомельшчыне колас у норме, а на астатняй частцы краіны шмат дзе ўраджай прыйдзецца высушваць двойчы і несці дадатковыя расходы. Беларусь будзе з хлебам, і хлебаробы разлічваюць, што і сонечнае надвор'е дапаможа годна вытрымаць гэты складаны экзамен і забяспечыць краіну галоўным прадуктам.

## Надвор'е ў Глыбокім www.rp5ru

| | чацвер 04.08.11 | | | | пятн. 05.08.11 | | | | сб. 06.08.11 | | | | нядз. 07.08.11 | | | | пн.08.08. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °C | +11 | +16 | +20 | +18 | +11 | +17 | +22 | +19 | +12 | +18 | +23 | +20 | +15 | +19 | +25 | +23 | +18 | +18 | +23 |
| Ціск, мм | 751 | 750 | 749 | 749 | 748 | 748 | 748 | 748 | 747 | 747 | 747 | 745 | 744 | 743 | 742 | 739 | 739 | 739 | 738 |
| Вільготнасць, % | 88 | 67 | 40 | 55 | 86 | 70 | 39 | 62 | 82 | 65 | 41 | 53 | 72 | 61 | 47 | 61 | 98 | 93 | 64 |
| Вецер м/сек | С-В 2 | С-В 2 | С-В 5 | С-В 2 | С 1 | С 1 | С-В 4 | В 2 | Ю 1 | Ю-З 2 | Ю-З 3 | Ю 3 | Ю 5 | Ю 6 | Ю 6 | Ю-З 6 | З 2 | З 3 | Ю-З 4 |

## Дзень за днём

**З пачатку года беларускі рубель "аслабеў" на 75 %, а цэны на шэраг імпартных тавараў выраслі ў 2-3 разы, многія тавары зніклі ў крамах. За такім дэфіцытам беларусы пачалі ездзіць у суседнія краіны. З-за адсутнасці валюты банкі пачалі закрываць свае абменныя пункты. На заклік Еўропы вызваліць палітзняволеных кіраўнік Беларусі прапанаваў выслаць з краіны дысідэнтаў нават вагонамі альбо самалётам. У большасці рэгіёнаў краіны ідзе жніво, парк тэхнікі дазваляе завяршыць уборку за 21 пагодны дзень, але з-за засухі можа быць недабор ураджаю.**

# Важнейшыя навіны свету

**Расія.** Прэзідэнт РФ. Дзмітрый Мядзведзеў даручыў ураду паскорыць прыватызацыю і продаж актываў, за выключэннем абаронных і інфаструктурных прадпрыемстваў.

**Польшча**. МЗС краіны назвала несправядлівым рашэнне Ленінскага суда Гродна па справе карэспандэнта польскай "Газеты Выборчай" Андрэя Пачобута ( 3 гады з адтэрм.).

**ЗША.** Эксперты ААН заявілі, што сёлета колькасць насельніцтва зямлі перавысіць 7 мільярдаў чалавек, і заклікалі дапамагчы Самалі, дзе ад засухі на грані смерці 10 мільёнаў.

**Бельгія.** Мясцовая чыгунка запусціла па маршруце Парыж-Амстэрдам першы поезд, які цалкам працуе на сонечнай энергіі ад 16 тысяч батарэй, кошт праекта склаў 15,6 млн. еўра.

**Ватыкан.** Папа Рымскі Бенедыкт XVI прызначыў архіепіскапа Клаўдзіа Гуджэроці новым апостальскім нунцыем у Беларусі, раней ён прадстаўляў Ватыкан у Закаўказзі.

**Украіна.** У шэрагу месцаў Данецкай вобласці медыкі выявілі шэраг новых выпадкаў захворвання халерай, РБ узмацніла санітарна-каранцінны кантроль на сваёй граніцы.

**Індыя.** Пасля серыі тэрактаў-выбухаў побач з операй мегаполіса ў Мумбаі загінула каля 20 чалавек, на вуліцах былі раскіданы брыльянты на мільёны долараў з ювелірных крам.

**ЗША.** Адразу ў 24 штатах краіны ўстанавілася небывалая гарачыня, тэмпература паветра трымалася тыднямі на ўзроўні + 40 градусаў і болей, будзе недабор ураджаю.

**Японія.** У японскай арміі створаць спецыяльныя падраздзяленні па 10 салдат у кожным для знішчэння полчышчаў мух і іншых насякомых, якія распладзіліся ў зоне ўдару цунамі.

**Галандыя.** Пасля кароткага замыкання і ўзнікшага пажару ў горадзе Гогерсмільдэ ўпала адна з самых высокіх у свеце тэлевізійных вежаў вышынёй больш за 300 метраў.

**Карэя.** З трэцяй спробы горад Пхенчхан стаў сталіцай зімовых Алімпійскіх гульняў 2018 года, апярэдзіўшы пры галасаванні на сесіі МАК нямецкі Мюнхен і Ансі (Францыя).

**Украіна.** З 1 студзеня 2012 года ў краіне пачнецца пенсійная рэформа, на працягу бліжэйшых 10 гадоў павысіцца ўзрост выхаду жанчын на пенсію з 55 да 60 гадоў.

**Расія.** Прэзідэнт Алімпійскага камітэта РФ А. Жукаў паведаміў аб планах стаць першай дзяржавай свету, якая адправіць агонь сочынскай Алімпіяды ў космас і на дно возера Байкал.

**Індыя.** У выніку чарговай чыгуначнай аварыі ў штаце Утар-Прадзеш загінулі дзясяткі чалавек, яшчэ адзін поезд сутыкнуўся з аўтобусам, загінула больш за 30 гасцей вяселля.

**Англія.** Жыхары вёскі Шэпрэт адкрылі самы маленькі піўбар у свеце, свой паб "Dog and Bone" з барнай стойкай яны размясцілі ... у традыцыйнай англійскай тэлефоннай будцы.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Пасля трагедыі ў РФ з цеплаходам "Булгарыя" ў РБ правялі праверкі ўсіх рачных суднаў, родныя ў сталіцы пахавалі затануўшую на Волзе 62-гадовую мінчанку.

**Мазыр.** На мясцовым НПЗ пачалі прамысловую перапрацоўку лёгкай нафты з Азербайджана сорту "Айзеры лайт", яе дастаўка ідзе праз Украіну.

**Гродна.** Напярэдадні 150-годдзя мясцовай тытунёвай фабрыкі "Нёман" міжнародная кампанія Japan Tobacco Internatioal адкрыла новую лінію цыгарэт коштам 5,3 млн. еўра.

**Мінск.** Адзін з кіраўнікоў упраўлення Мінэканомікі РБ А. Даўгавечны пацвердзіў, што курс нацвалюты можа вырасці да 7000 рублёў за 1 $ пры выхадзе на яе раўнаважны курс.

**Астравец.** Нягледзячы на пратэсты Літвы, як пацвердзілі ў Мінпрыроды і аховы навакольнага асяроддзя РБ, пабудуць беларускую АЭС, яна будзе мець 4 узроўні бяспекі.

**Мінск.** Па дадзеных праваабаронцаў, падчас маўклівых акцый пратэсту сярод затрыманых з 15 чэрвеня па 6 ліпеня было толькі журналістаў 77 чалавек, пратэст падалі ЕС, РФ і ЗША.

**Столін.** У адным з самых "агурковых" раёнаў краіны закупачная цана на агуркі вырасла ў 10 разоў – да 6.000 рублёў, калі летась яна была 600 рублёў за кілаграм, ёсць попыт на РФ.

**Валожын.** З-за валютнага крызісу ў РБ беларуска-літоўскае СП адклала на 2 месяцы запуск 1-й чаргі буйнога транспартна-лагістычнага цэнтра ля райцэнтра плошчай 10 га.

**Жлобін.** У новы холдынг металургічнага завода вырашана ўключыць "Вторчермет" і яшчэ шэраг металургічных і іншых заводаў РБ, павысіць кошт закупак айчыннага металалому.

**Мінск.** На мяжы спынення апынуўся будаўнічы гігант краіны, ААТ "МАПІД", даўгі яго заказчыкаў перавысілі 90 млрд. рублёў, узнік пагражальны дэфіцыт цэменту і металаў.

**Маладзечна.** На ўездзе ў места "Дажынак-2011" з боку сталіцы ўстанавілі прыгожую манументальную стэлу вышынёй 15 метраў з выявай Маці Божай у залатой кароне.

**Лоеў.** Пасля моцных праліўных дажджоў ля вёскі Ручаёўкі на дарозе на Брагін раніцай правілёўся участак асфальту, з'явілася вялікая яма глыбінёй 2 метры і яшчэ 8 у шырыню.

**Гродна.** У мікраранёе Вішнявец-7 перадалі навасёлам першы па праекце "Настаўніцкі дом" . 138-кватэрны жылы дом цалкам для педагогаў абласнога цэнтра.

**Ваўкавыск.** Памылка пілота лёгкаматорнага самалёта, 47-гадовага падпалкоўніка запасу, каштавала яму жыцця пасля нечаканага падзення ў гарпасёлку Рось на дах гаража.

**Мінск.** На падрыхтоўку да чэмпіянату свету па хакеі ў 2014 годзе патрэбна 11,24 трлн. рублёў, трэба ўзвесці яшчэ 14 гасцініц, 6 транспартных развязак, новы Лядовы палац.

## Velcom павялічыў перадаплату на шэрагу тарыфаў



■ **IT.TUT.BY**

ІП "Велком" (гандлёвыя маркі velcom і ПРЫВІТАННЕ) з 1 жніўня павялічвае памер мінімальнай перадаплаты да 10 000 рублёў на тарыфных планах: "Усё кажуць", "Кеды", "Паўкеды", "Лета кліча", "Свая сетка", "Бізнес+", BUSINESS.PRO, "Відэаназіранне", "Спадарожнікавы маніторынг", Smart500, Smart 1000, "На сувязі", "Новы стандарт".

Змены ўступаюць у сілу з 1 жніўня 2011 года і тычацца абанентаў кампаніі, фізічных і юрыдычных асоб.

Мінімальная перадаплата ўносіцца пры заключэнні дамовы на аказанне паслуг электрасувязі, пераафармленні абанента на іншага кліента, аднаўлення абслугоўвання і расходуецца на паслугі сувязі.

## Павышаецца бюджэт пражытачнага мінімуму

■ **Андрэй Серада, БелаПАН**

Бюджэт пражытачнага мінімуму (БПМ) у Беларусі 1 жніўня павышаецца на 28,9%: з 343 тыс. 260 рублёў — да 442 тыс. 360 рублёў. Гэта прадугледжана пастановай Савета міністраў № 1015 ад 28 ліпеня. Новы БПМ будзе дзейнічаць па 31 кастрычніка 2011 года.

Бюджэт пражытачнага мінімуму па асноўных сацыяльна-дэмаграфічных групах у цэнах чэрвеня ў разліку на адзін месяц са жніўня складзе: для працаздольнага насельніцтва — 481 тыс. 920 рублёў, пенсіянераў — 366 тыс. 790, дзяцей да 3 гадоў — 348 тыс. 970, дзяцей ад 3 да 6 гадоў — 448 тыс. 560, ад 6 да 18 гадоў — 475 тыс. 250, для дзяцей-студэнтаў — 425 тыс. 980 рублёў.

Нагадаем, 1 мая БПМ быў павышаны на 15,6%.

Бюджэт пражытачнага мінімуму штоквартальна зацвярджаецца ўрадам у цэнах апошняга месяца кожнага квартала. У адпаведнасці з законам "Аб пражытачным мінімуме ў Рэспубліцы Беларусь" БПМ прызначаны для аналізу і прагназавання ўзроўню жыцця насельніцтва, аказання дзяржаўнай сацыяльнай дапамогі малазабяспечаным грамадзянам (сем`ям), абгрунтавання мінімальных дзяржаўных сацыяльна-працоўных гарантый. БПМ уяўляе сабой коштаву велічыню мінімальнага набору матэрыяльных даброт і паслуг, неабходных для забеспячэння жыццядзейнасці чалавека і захавання яго здароўя, а таксама абавязковых плацяжы і ўзносы.

Бюджэт пражытачнага мінімуму для працаздольнага насельніцтва прымяняецца для вызначэння сумы ўтрымання сродкаў з наймальнікаў, якія маюць запазычанасць па выплаце заработнай платы, і базавага межавага нарматыву тарыфнай стаўкі першага разраду для камерцыйных арганізацый дзяржаўнай формы ўласнасці і з доляй уласнасці дзяржавы ў іх маёмасці.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Машынна-трактарны парк гаспадарак вобласці напярэдадні жніва папоўніўся яшчэ 500 новымі збожжаўборачнымі камбайнамі. Па ацэнках, ураджай горшы, чым летась.

**Наваполацк.** Летась самае прыбытковае прадпрыемства Беларусі – ААТ "Нафтан" – у гэтым годзе разам з Мазырскім НПЗ сталі самымі стратнымі заводамі краіны – амаль 400 млрд.

**Чашнікі.** Пасля пашырэння па праграме "Чыстае поле" зернавога кліну на 4 тысячы гектараў раёну павялічылі дзяржзаказ па здачы збожжа дзяржаве з 6600 да 7700 тон.

**Орша.** На мясцовым хлебазаводзе пачалі маштабную рэканструкцыю кандытарскага цэху з мэтай выхаду на замежныя рынкі збыту, запусцілі новую печ і машыну рэзкі хлеба.

**Лёзна.** Ад райцэнтра да Віцебска пачалася рэканструкцыя самай аварыйна-небяспечнай трасы вобласці, паток аўто тут да 5 тысяч машын у суткі, здадзена першыя 16 км дарогі.

**Глыбокае.** У райцэнтры правяла выязны прыём грамадзян па асабістых пытаннях міністр працы і сацыяльнай абароны РБ Марыяна Шчоткіна, найбольш было зваротаў наконт пенсій.

**Віцебск.** Раённы суд пакараў штрафамі па 4,6млн. рублёў інжынера і слесара калгаса "Вымна", якія незаконна 5 сеткамі злавілі шмат рыбы і больш за 40 ракаў.

**Ушачы.** У райбальніцу паступілі нарэшце сучасныя ЛОР-кабінет, УЗІ-апарат, біяхімічны і гематалагічны аналізатары крыві, з'явілася лакальная камп'ютарная сетка для 40 медыкаў.

**Рудакова.** У мясцовым калгасе паблізу Віцебска ўзвялі яшчэ некалькі новых цяплiц на плошчы 5 гектараў, але не хапае яшчэ 80 млрд. рублёў для заканчэння будаўніцтва іх новага блока.

**Віцебск.** Пасля знікнення 24 сакавіка двух хлопчыкаў ва ўзросце 8 і 9 гадоў у Дзвіне ў раёне парку Мазурына пасля некалькіх месяцаў пошукаў знайшлі цела аднаго з іх.

**Орша.** У гарадскім цэнтры культуры адкрыўся чарговы ў вобласці сучасны 3D кіназал на 150 месц з навейшай сістэмай гуку Dolby Diqital, кошт білета 15-20 тыс. руб.

**Верхнядзвінск.** У вёсцы Сар"я ля прыгожага храма неагатычнага стылю адкрылі скульптурную кампазіцыю з бронзы ў гонар святых князя Пятра і яго жонкі Фяўроніі.

**Новалукомль.** Двум маладым сем'ям урачоў гарбальніцы ўручылі ключы ад новенькіх службовых кватэр, на працу сюды за 2 апошнія гады прыбылі 10 дактароў і 32 медсястры.

**Полацк.** У маляўнічых лясных угодддзях паблізу возера Белае прайшоў чарговы чэмпіянат па зборы чарніц з удзелам каля 300 чалавек, ураджай ягад сёлета добры паўсюдна.

**Віцебск.** На сцэне знакамітага Летняга амфітэатра прайшоў фестываль творчасці інвалідаў зроку "Запалі сваю зорку" з удзелам шэрагу вядомых айчынных артыстаў.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ **Аляксандр Івашчонак,** *бакалаўр гісторыі.*

Захаваны стыль і правапіс аўтара.

# Неверагоднае здарэнне 10 жніўня 1763 года

Гісторыя адрозьніваецца тым ад іншых навук, што на некаторыя пытаньні навукоўцаў не дае адказу, а што самае дзіўнае – нельга яе прымусіць... адкажа толькі тады, калі сама таго захоча, а да гэтага моманту гісторыкі могуць снуць свае тэорыі, якія, акрамя няпэўнасьці, нічога канкрэтна прадставіць ня могуць.

Гісторыя кожнага чалавека, кожнай мясьціны й рэчы мае свае таямніцы, асабліва шмат тых таямніцаў мае Глыбокае, а перадусім кляштар кармэлітаў босых, а тым самым і манахі, якія ў ім жылі, ды й рэчы, якія там знаходзіліся.

Будучы глыбачанамі, застаецца нам толькі бядоліць над нашае гістрыяй, а дакладней, над вялікай колькасцю яе белых плям.

Але будучы гісторыкамі й краязнаўцамі, мы павінны прынамсі гэтыя белыя плямы зрабіць крыху 'шэрымі' праз рэканструкцыю гісторыі за дапамогай розуму дый логікі, будуючы гістарычныя тэорыі.

На сёньняшні дзень шмат удалося адкрыць новага, што тычыцца гісторыі мястэчка Глыбокае, але няшмат напісана дый даследавана лёсаў выдатных асобаў, якія жылі і працавалі ці памерлі ў нашае мясьціне.

Асаблівую ўвагу хацелася б засяродзіць на пэўнай постаці, пра якую варта ўзгадаць, бо прадстаўляе яна сабой непаспалітую асобу, імя якой брат Міхал ад сьв. Ёзафата (Jozafat не блытаць з Józefat).

Міхал быў звычайным братам законным - манахам кармэлітам босым. Ня меў пакліканьня да сьвятарства, таму быў звычайным братам, які працаваў ды выконваў розныя паслугі. Пра яго асабістае жыццё, на жаль, мы нічога ня ведаем, але нягледзячы на гэта, ён запісаўся на заўсёды залатамі літарамі на старонкі гісторыі Глыбокага. Чаму? Адказ вельмі просты – менавіта брат Міхал з'яўляецца аўтарам статуі Пана Езуса Церпячага (Фрасаблівага).

Нягледзячы на тое, што Герадот Глыбокага - Отан Гедэман – прамаўчаў пра неверагоднае здарэньне 10 жніўня 1763 года, якое адбылося ў глыбоцкім кляштары кармэлітаў босых. Пачынаючы ад 17.00 аж да гадзіны 22.00 статуя Езуса Церпячага цудоўным спосабам пачала пацець, а айцец Апалінары ад сьв. Ельяша (Ілы), які ў гэтым часе справаваў функцыю магістра навіц'яту (быў адказны за паслушнікаў), выціраў гэты цудоўны пот з статуі Езуса Церпячага чыстым палатном. Занатавалі гэта здарэньне ўсе летапісцы суседніх кармэліцкіх кляштараў. Прыгадаю толькі, што ў тым часе гэтая статуя знаходзілася ў адной з фрамуг араторыі перад уваходам да законнага хору - месца, дзе маліліся манахі. Такім чынам, ідучы на малітву, манахі некалькі разоў на дзень міналі гэтую статую, якую зрабіў сваімі рукамі брат Міхал ад сьв. Ёзафата.

Ведаючы дакладна пра цуд, які адбыўся ў Глыбокім, мы ня ведаем амаль нічога пра брата Міхала, акрамя таго, што памёр ён ў глыбоцкім кляштары кармэлітаў у 1739 годзе. Кніга Памерлых апісвае яго як вельмі пабожнага, як асобу, якая вяла сьвяты спосаб жыцьця, а калі брат Міхал памёр, то ўсе лічылі яго сьвятым. Вельмі цікавым з'яўляецца факт, што пасьля сьмерці яго цела не раскладалася.

Уявіце сабе, што ўсе гэтыя здарэньні адбываліся ў Глыбокім. Узнікае пытаньне, дзе быў пахаваны брат Міхал. Знайсьці адказ на гэтае пытаньне будзе вельмі складана. Вядома, што падзямеллі глыбоцкага кляштара былі прызначаныя для пахаваньня вяльможаў, якія, дарэчы, і фінансавалі будаўніцтва гэтых крыптаў, а таксама прыёраў і выбітных айцоў. Найлепшым прыкладам будзе з'яўляцца крыпта Тышкевічаў у глыбоцкім кляштары кармэлітаў босых (былі і іншыя, напрыклад, Корсакаў, Падбіпентаў). Братоў, напэўна, хавалі на могілках законных перад кляштаром, а не побач з капліцай сьв. Крыжа. Да канца XVIII ст. могілак на Копцеўцы не было, а сама гара хутчэй за ўсё была выкарыстывана



Статуя Хрыста, якая дзіўна пацела 10 жніўня 1763 года. Цяпер знаходзіцца ў касцёле святойТройцы. *Фота Ул. Скрабатуна.*

як месца, дзе капцілі рыбу, сыры і іншыя рэчы (ад гэтага і назва Копцеўка).

Аднак, лагічна разважаючы, на могілках пры капліцы сьв. Крыжа (не блытаць з могілкамі пры капліцы сьв. Эльяша (Ільі)) брата Міхала пахаваць не маглі. Чаму? Таму што пахаваньне адбывалася ў зямлі, а выкарыстоўвалася толькі дубовая труна, таму хутчэй за ўсё, калі ў 1763 годзе манахі зацікавіліся целам брата Міхала, яго б не знайшлі ў добрым стане.

**У гэтым кляштары каля 850 паўстанцаў прысягнула на вернасьць Рэчы Паспалітай.**

Гэта азначае, што цела брата Міхала знаходзілася ў падзямельлях кляштара. Чаму? Хутчэй за ўсё таму, што ўжо пры жыцьці брата Міхала шанавалі як сьвятога, таму з вялікім пошасцямі яго пахавалі ў крыптах. Таму ў 1763 годзе вельмі проста было праверыць стан яго цела, якое nota bene не раскладалася, што і занатавана ў Кнізе Памерлых.

Што пасьля сталася? Пасьля пачалася ваенная завіруха і раздзелы нашае Радзімы - Рэчы Паспалітае Абодвух Народаў. Глыбокае захапілі расіяне. Але, як гавораць гістарычныя крыніцы, набажэнства да Езуса Церпячага не спынілася. У 1805 г. айцец Мікалай Будны пабудаваў новую капліцу сьв. Ельяша і новыя могілкі, куды і перанёс статую Езуса Церпячага, да якой глыбачане і ня толькі мелі вялікую прыхільнасць, прыходзілі нават пілігрымы (паломнікі). Як бачым, статуя Езуса павандравала з замкнёных калідораў кляштара на алтар публічнай капліцы (даўней капліцы былі публічныя - для ўсіх вернікаў, і прыватныя - толькі для выбранай групы), дзе вернікі маглі свабодна да яе маліцца.

А што ў такім разе зрабілі з целам брата Міхала? Добрае пытаньне. Што тычыцца цела брата Міхала, то пра яго нічога невядома. Напэўна, не павандравала яно да капліцы на Копцеўцы, бо брат Міхал не быў бэатыфікаваны (прызнаны блаславлёным), таму яго цела не магло знаходзіцца ў публічных капліцах, хутчэй за ўсё яго цела і далей ляжала ў крыптах кляштара, дзе маглі маліцца толькі манахі. Дарэчы, былі гэта вельмі нецікавыя часы панаваньня царыцы Кацярыны II і біскупа Сестранцэвіча, які быў гатовы зрабіць усё, каб падлізацца царыцы..

Такім чынам, цела брата Міхала было нямым сьведкам катаваньня глыбоцкіх паўстанцаў у 1831 годзе, калі прыехаў Мураўёў, а пасьля было сьведкам закрыцьця кляштара ў 1862 годзе царскімі ўладамі за ўдзел у паўстаньні, а таксама за тое, што ў гэтым кляштары каля 850 паўстанцаў прысягнула на вернасьць Рэчы Паспалітай.

Як вядома, манахаў накіравалі ў кляштар у Камянец-Падольскі, але яны не маглі забраць з сабой нічога. Таму засталося ў Глыбокім і цела фундатара Юзафа Корсака, і цела брата Міхала. У 1873 годзе ўлады пачалі перарабляць кляштар на царкву. Як занатаваў у 1903 г. глыбачанін Вінч, ужо ад 20 гадоў па падзямельлі ў Глыбокім ляжаць раскіданыя косьці там пахаваных людзей. Вядома, што цела Корсака было выкінута з крыпты, быць можа, тое самае спаткала і цела брата Міхала. Такім чынам, памяць пра яго загінула пад канец XIX ст. Прычынілася да гэтага некалькі фактараў. Першы – пра сьвятасьць брата Міхала ведалі толькі манахі, толькі яны маглі пабачыць яго нятленнае цела, таму памяць пра яго магла ўжо загінуць разам са сьмерцю апошняга манаха з Глыбокага, а сталася гэта ў 1873 годзе. Другі фактар – перасьледаваньне Касьцёла (як вядома, да 1839 г. у Глыбокім не было праваслаўных – былі толькі грэка-каталікі, з якіх царскія ўлады пад прымусам зрабілі праваслаўных). Трэці – постаць новага 'сьвятога', якім быў кармэліт айцец Панкрацы Крушыньскі, слава пра якога дайшла аж да 1939 г.



Спадчына кармелітаў. Цудадзейны абраз Маці Божай Падхорнай. Знаходзіцца ў касцёле св. Тройцы. *Фота Ул. Скрабатуна.*



Крэсла прэора кляштара кармелітаў са львінымі галовамі і гербам кармелітаў. Знаходзіцца ў касцёле св. Тройцы. *Фота Ул. Скрабатуна.*

На жаль, пасьля перарабленьня ў 1878г. капліцы сьв. Эльяша на часоўню сьв. Ільі і перанясеньня статуі Езуса Церпячага да касьцёла сьв. Тройцы, слава пра яе загінула. У часы вызваленьня з-пад расейскае акупацыі 1921 – 1939 гг. распаўсюдзіўся ў Глыбокім культ цудоўнага абраза Маці Божай Падхорнай, да якой прыходзілі пілігрымы (паломнікі). Вернікі таксама памяталі пра айца Панкрацыя, хадзілі на яго магілу маліцца, але не за яго, але да яго. Яны таксама верылі, што кармэліты вернуцца ў Глыбокае. За прыклад можна ўзяць Норбэрта Філёнка, глыбачаніна, які жыў на вул. Сянкевіча (сёньня Горкага), ён пісаў пэтыцыі да кармэлітаў у Кракаў, дзякуючы яму кармэліты прыехалі ў Глыбокае ў 1926 г. Філёнак нават пісаў да арцыбіскупа Ялбжыкоўскага, якога знаў асабіста, да ваяводскіх чыноўнікаў, таму праваслаўны сьвятар пачаў езьдзіць ў Вільню кожны дзень, просячы, каб манахам не дазволілі вярнуць кляштар. Сьвятару пашанцавала, ваяводскі чыноўнік быў няверуючы, таму не быў прыхільны каталіцкаму духавенству й не дазволіў кармэлітам вярнуцца. Пасьляваенныя часы – перыяд камуністычнага тэрору, перасьледу Касьцёла й Царквы, вывозак у Сібір, расстрэлаў – быў непрыязны для культу не толькі брата Міхала, айца Панкрацыя, сястры Тадэі Касьцюшкі (непакалянкі Глыбоцкай) і нават для Маці Божай Падхорнай.

**Сумна...**

Глыбачане забыліся, не памятаюць сваей гісторыі, не ведаюць сваіх каранёў...

Езьдзяць, шукаючы сьвятасьці недзе далёка, а ходзячы штодзёна каля сваіх цудатворных абразоў, сваіх сьвятых, ня толькі ня моляцца, але нават не ведаюць іх імёнаў...

Жывуць так, як бы ня ведалі, што часы бальшавіцкага перасьледу за веру ўжо мінулі...



Кляштар айцоў кармелітаў босых у Глыбокім паводле акварэлі 1878 года.



Ільінская капліца на Копцеўцы. *Фота Ул. Скрабатуна.*

# Вялікае свята ў Падсвіллі

Ул. Скрабатун

**У мястэчку Падсвілле, што на Глыбоччыне, 30 ліпеня адбылася важная гістарычная падзея – асвечаны новы касцёл Найсвяцейшага Сэрца Езуса Хрыста. Гэтай падзеі доўгіх 11 гадоў чакалі мясцовыя парафіяне. І не толькі чакалі, але бралі чынны ўдзел ва ўзвядзенні святыні: ахвяравалі сродкі са сваіх небагатых прыбыткаў, працавалі, добраўпарадкавалі, шукалі фундатараў... На прыканцы будоўлі дапамаглі і ўлады, выдаткаваўшы тэхніку на добраўпарадкаванне тэрыторыі.**

Урачыстая Літургія, якую ўзначаліў сакратар Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Польшчы арцыбіскуп Станіслаў Будзік, пачалася а 12-й гадзіне. На мерапрыемстве прысутнічала шмат вернікаў як з Падсвілля, так і навакольных парафій, былі таксама замежныя госці. Не абмінулі важную гістарычную падзею сваёй прысутнасцю і праваслаўныя, якіх было нямала на свяце.

Абрад асвячэння праводзіў арцыбіскуп Станіслаў Будзік. Ён, дарэчы, колішні рэктар семінарыі, дзе вучыўся сённяшні пробашч падсвільскі ксёндз Андрэй Кулік.

Арцыбіскупу Станіславу Будзіку ад біскупа Віцебскай дыяцэзіі перад уваходам у святыню быў уручаны сімвалічны ключ ад касцёла. Гэты ключ арцыбіскуп перадаў пробашчу падсвільскай парафіі ксяндзу Андрэю Куліку, які адчыніў дзверы святыні і запрасіў усіх прысутных у храм.

Біскуп Віцебскай дыяцэзіі Уладзіслаў Блін павіншаваў вернікаў з заканчэннем будовы касцёла, якая была распачата ў 2000 годзе. Пасля прывітальных слоў распачалася святая Імша, падчас якой быў асвечаны алтар і сам касцёл. Касцёл не змог змясціць усіх вернікаў, і частка іх слухала Імшу на вуліцы.

Да ўдзельнікаў урачыстасці звярнуўся кіраўнік Глыбоцкага раёна Алег Віктаравіч Морхат. Варта адзначыць, што выступаў ён на добрай беларускай мове. “Спадзяюся, што нараджэнне новай святыні на нашай глыбоцкай зямлі будзе спрыяць умацаванню хрысціянскіх і агульначалавечых каштоўнасцей,” – адзначыў ён у сваім выступе.

Пасля Імшы адбыўся канцэрт, які падрыхтаваў мясцовы Дом культуры. Пасля канцэрта парафіяне накармілі абедам усіх жадаючых, хто прымаў удзел ва ўрачыстасці. Палаткі дзяржаўнага гандлю заклікалі купляць беларускае.

Крыху гісторыі... Першы касцёл у Падсвіллі быў збудаваны ў 1930 годзе, калі ў мястэчку стаялі польскія памежнікі. У 1946 г. касцёл зачынілі і зрабілі там спачатку клуб, пасля збожжасховішча, а потым склад ільнозавода.

У 1984 г. святыня была зруйнаваная ўшчэнт. Засталіся падмуркі і прысупкі, якія і сёння бачныя на пагорку пры выздзе з Падсвілля ў бок Галубічаў.

Будаўніцтва новага касцёла распачалося ў 2000 годзе. Праўда, новы касцёл Найсвяцейшага Сэрца Езуса Хрыста стаіць на іншым месцы – у цэнтры Падсвілля і бачны здалёк.



Біскуп Уладзіслаў Блін (злева) і арцыбіскуп Станіслаў Будзік (справа)



Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Езуса Хрыста ў Падсвіллі.



Асвячэнне вады.

# Утоеная пагроза

А.Г.Палілейка,
*інжынер Глыбоцкага РЭС.*
*Тэл. 2-66-78*

Прыйшла пара, калі сцябло пшаніцы, жыта схіляецца пад цяжарам каласоў, зліваючыся ў бязмежнае «мора», гойдаецца пад лёгкім подыхам ветру. Зачароўвае плыўны рух «караблёў», якія плывуць па бязмежных абшарах, пакідаючы пасля сябе выразны след: роўна падстрыжаныя, калючыя навобмацак іржышчы. Спелае збожжа, перасыпаючыся з бункера камбайна, раўнамерна расцякаецца па кузаве аўтамабіля, запаўняючы яго да краёў, цешачы вока чалавека.

Так мог бы пачынацца аповед ці аповесць пра нялёгкую працу людзей у сельскай гаспадарцы. Але за гэтымі радкамі хаваецца пагроза жыцця і здароўю камбайнераў, кіроўцаў і іншых работнікаў сельскай гаспадаркі. Назва гэтай пагрозы – паветраная лінія электраперадачы. Аблытваючы павуціннем зямлю, яна як неад'емная частка ўвайшла ў наша жыццё. І парой людзі, штодня праходзячы ля апор пад пралётамі паветранай лініі электраперадачы, не задумваюцца пра небяспеку, якая ўтойваецца ў іх. Працуючы на сельгастэхніцы, аўтатранспарце механізатары і кіроўцы не надаюць значэння выкананню правіл бяспекі пры працы ў ахоўнай зоне паветраных ліній.



Так, 19 жніўня 2001 года, знаходзячыся на бункеры камбайна «Дон-1500», у момант перасячэння трасы ВЛ-10 кв быў смяротна траўміраваны электратокам памочнік камбайнера сялянска-фермерскай гаспадаркі «ВалБіК» Лепельскага раёна.

30 ліпеня 2002 года пры праездзе пад ВЛ-110 кв камбайна КЕЙС-527 загінуў камбайнер ААТ «Лунінецкая райаграпрамтэхніка». Работнік быў дапушчаны да работы на камбайне без прафесійнай падрыхтоўкі. Перад пачаткам уборкі з механізатарамі інструктаж пра меры бяспекі пры рабоце ў зоне размяшчэння высакавольтных ліній электраперадачы не праводзіўся.

Няшчасны выпадак адбыўся ўжо і сёлета, нягледзячы на шматлікія папярэджанні пра траўматызм падчас уборачнай кампаніі з боку Раёнаў Электрычных Сетак, Энерганагляду.

24 ліпеня 2011г. падчас правядзення работ па ўборцы збожжавых камбайнер КСУП «Раўковічы» Чачэрскага раёна Гомельскай вобласці Сазонаў Д. А. узлез на бункер камбайна для размеркавання збожжа і наблізіўся на недапушчальную адлегласць да провада ВЛ-110 кв, у выніку чаго быў паражоны электрычным токам і атрымаў апёкі кісцяў рук, твара і грудной клеткі сярэдняга цяжару.

Сумны лёс людзей, якія заўчасна пайшлі з жыцця, цяжкая доля кіраўнікоў, што дапусцілі няшчасны выпадак.

У разгары збожжаўборачнай кампаніі хацелася б яшчэ раз нагадаць пра Правілы аховы электрычных сетак.

**1.** Пры выкананні кормаўборачных (збожжаўборачных) прац паблізу паветраных ліній электраперадачы неабходна выконваць наступныя патрабаванні:

● парадак і ўмовы правядзення работ у ахоўных зонах паветраных ліній электраперадачы павінны быць узгоднены з Глыбоцкім раёнам электрычных сетак, якія эксплуатуюць гэтыя лініі;

● адлегласць ад найвышэйшай кропкі машыны да правадоў паветраных ліній электраперадачы павінна быць не меней за 2м пры велічыні напругі паветраных ліній электраперадачы да 20кВ і не меней за 4м пры напрузе 35кВ і вышэй.

**2.** Пры падзенні на машыну электрычнага провада трактарыст-машыніст павінен:

● неадкладна, не выходзячы з кабіны, паспрабаваць, калі магчыма, вызваліцца ад абарванага провада шляхам пасоўвання машыны.

Пры адсутнасці такой магчымасці ён павінен застацца ў кабіне, неадкладна спыніць машыну і сігналам трывогі прыцягнуць увагу найбліжэйшых работнікаў. Набліжацца да такой машыны на адлегласць меней за 20м забараняецца.

**3.** Пры загаранні агрэгата ў выніку падзення провада ці ўзнікнення электрычнага разраду неабходна неадкладна пакінуць агрэгат, але так, каб не было адначасовага судотыку чалавека з машынай і зямлёй, **г.зн. саскочыць на зямлю** на абедзве ступеньы нагі, не трымаючыся за машыну. Адыходзіць ад машыны да здымання напругі можна толькі дробнымі крокамі, не адрываючы ног адну ад другой і ад зямлі.

**Памятайце!** Пры адключэнні высакавольтнай ЛЭП яна можа быць уключана зноў сродкамі аўтаматыкі.

**4.** Пры ўзнікненні дугавога замыкання на апоры паветранай лініі электраперадачы пры абарваным праводзе, які ляжыць на зямлі, нельга набліжацца да апор і правадоў на адлегласць меней за 20м. Работу варта спыніць. Выклік аператыўна-выязной брыгады і дзеянні работнікаў такія ж, як у п. 1.

**5.** Ва ўсіх аварыйных сітуацыях у зоне паветранай лініі электраперадачы да прыбыцця аператыўна-выязной брыгады неабходна распачаць меры для папярэджання магчымага наближэння людзей да аварыйнага ўчастку.

**6.** Пры немагчымасці арганізаваць ахову неабходна ахоўваць аварыйны ўчастак, выставіць апазнавальныя знакі.

**Глыбоцкі раён электрычных сетак папярэджвае!**

Пры ўзнікненні аварыйнай сітуацыі: абрыў провада, пашкоджання апоры лініі электраперадач, падзення дрэў на лінію электраперадач і іншых пашкоджаннях, ні ў якім разе не набліжайцеся да месца пашкоджання. Неадкладна паведаміце пра здарэнне дыспетчару Глыбоцкага раёна электрычных сетак па тэлефоне 2-62-41.

# Барацьба з ляснымі браканьерамі будзе весціся больш актыўна

■ А.Г. Абрамчык,
*дзяржінспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі ахо-вы жывёльнага і расліннага свету.*

У папярэднім нума-ры газеты аўтар артыку-ла «Хто спыніць лясных браканьераў» Алесь Гай узнімае вельмі надзённую тэму: збор ягад грабянцамі. Тэма гэта не новая, штогод супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі ахо-вы жывёльнага і расліннага свету ў сезон збору чарніц, брусніц затрымоўваюць дзясяткі парушальнікаў збо-ру ягад грабянцамі, але, на жаль, менш іх не становіцца. Лясных браканьераў не па-лохаюць нават велізарныя штрафы, напэўна, прыбы-так ад збору ягад грабянцамі значна большы. Ды і пры затрыманні інспектарамі парушальнікаў яны пачы-наюць маліць пра літасць, плакаць, казаць пра тое, што няма працы, а жыць неяк трэба, але з такім браканьерскім спрытам ў нашых лясах хутка ягад не застанецца.

І ўсё ж апускаць рукі работнікі міжрайінспекцыі не збіраюцца, барацьба з ляснымі браканьерамі буд-зе весціся яшчэ актыўней, а штрафы накладацца толькі максімальныя. Мы спадзя-емся, што з дапамогай гра-мадзян усе разам навядзём парадак у нашых лясах.

Хацелася б таксама за-крануць тэму платнага аматарскага рыбалоўства на вадаёмах раёна. Усе арандатары, якім пера-дадзены вадаёмы ў арэнду для вядзення платнага аматарскага рыбалоўства, маюць адпаведныя дакумен-ты, і грамадзяне



абавязаны ўносіць пла-ту за рыбалоўства. Аднак вельмі часта можна чуць ад рыбакоў: «Мне ніхто не паказаў ліцэнзію, і я плаціць не буду», а самі ж прывозяць на арандаваныя вадаёмы сеткі, броднікі і іншыя забароненыя прыла-ды рыбалоўства.

Так, 29 ліпеня 2011 года работнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі ажыц-цяўлялі праверку платнага аматарскага рыбалоўства на вадасховішчы «Азер-цы». Каля 21 гадзіны ўвагу інспектараў прыцягнуў аўтамабіль Фольксваген, які заехаў вельмі далёка ў густыя зараснікі, далей ад людскіх вачэй. І вось інспектары ўжо вядуць назіранне за рыбаком, які ловіць рыбу вудай, але ўвесь час глядзіць па баках, штосьці выглядае. Пачало змяркацца, і паводзіны ры-бачка сталі зразумелымі: ён хутка дастаў з багажніка ма-шыны браканьерскія сеткі, але паставіць іх не паспеў, трапіўся ў рукі інспектараў. Парушальніка чакае раённы суд, а адсутнасць пуцёўкі на рыбалку з лішкам кам-пенсуе штраф, накладзены раённым судом.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага закана-даўства Вы можаце паве-даміць на тэлефон «га-рачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 8-02156-2-86-70, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

■ Кастусь Шыталь

# Два з паловай мільёны за прыбіральню

Глыбоцкія ўлады шмат робяць у сферы добраўпарадкавання, а не-сумленныя і нецвярозыя грамадзяне ўсё часцей псу-юць і знішчаюць зробле-нае. "Вольнае Глыбокае" ўзімку пісала, што невя-домыя хуліганы разламалі прыбіральню на беразе возера Кагальнае. Чым перашкодзіла камусьці прыбіральня, невядома.

Гэтая гісторыя мела пра-цяг. Праваахоўныя органы знайшлі падлеткаў, якія разламалі прыбіральню, і справа дайшла да суда. Бацькі падлеткаў-хуліганаў павінны будуць кампен-саваць камунгасу нане-сены ўрон – два з пало-вай мільёны рублёў. Гэта сярэдні глыбоцкі заробак за тры месяцы.

Магчыма, гэтая гісторыя адаб'е ў кагосьці ахвоту знішчаць тое, што зробле-на рукамі іх земляроў.



# З пачатку года ў Віцебскай вобласці патанула больш за 60 чалавек

**Паводле даных, на канец ліпеня з пачатку 2011 года ў вадаёмах Віцебскай вобласці патанула 64 чалавекі, у тым ліку 6 дзяцей. Гэта крыху менш, чым за такі ж перыяд 2010 года. Такія даныя абнародавала УУС аблвыканкама.**

Найбольш неспрыяль-нае становішча склала-ся ў Мёрскім раёне. Тут патанула 8 чалавек. У Браслаўскім раёне — 5, па 4 у Оршы і Наваполацку. У той жа час у Бешанковіцкім і Расонскім раёнах гібелі людзей на вадзе не было.

Трагічны выпадак здарыўся 28 чэрвеня ў гарадскім пасёлку Друя Браслаўскага раёна. З-за недагляду дарослых у штучным вадаёме патанулі тры маленькія дзяўчынкі.

У Віцебскай вобласці з 205 месцаў масавага адпа-чынку, размешчаных не-далёка ад вадаёмаў і рэк, 163 вызначаны органамі выканаўчай улады. Супрацоўнікамі міліцыі ажыццяўляецца ахова гра-мадскага парадку і грамад-скай бяспекі ў месцах ма-савага адпачынку, прычым надаецца вялікая ўвага і прадухіленню гібелі люд-зей на вадзе. За купанне ў неўстаноўленых месцах да адказнасці прыцягнута каля 30 чалавек, паведамілі ва УУС Віцебскага аблвыкан-кама. Пры гэтым у месцах масавага адпачынку, вызна-чаных уладамі, патанулі 3 чалавекі, астатнія загінулі на вадаёмах, не прызнача-ных для купання.

І ва УУС, і ў Асводзе ад-значаюць, што амаль пало-ва патанулых знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення.

***Вячаслаў Будкевіч, Бела-ПАН.***

**Богатсво, разумеется, не есть мера заслуг. Напротив, часто - можно сказать обычно – его приобретают люди с низкой душой и ничтож-ными способностями. Своему обладателю оно не приносит в дар никаких добродетелей, но способствует повреждению его ума и порче нравов.**

*Смоллетт.*

Рэзананс.

# «Агароджы за кошт дзяржавы»

■ Фадзей Шымуковіч,
*старэйшына г. Дзісны.*

Пад такім зага-лоўкам прачытаў артыкул у «Воль-ным Глыбокім» за №28 ад 14.07.2011г. аўтара Алеся Гая з Глыбокага. Не магу не адзначыць, што аўтара я заўважыў і па некаторых іншых артыкулах, якія па пастаноўцы праблем мне вельмі імпануюць. Па-больш бы такіх матэрыялаў. Паважаны Алесь Гай, ваш багаты сусед – гэта не асо-ба, гэта раб грошай, вельмі няшчасны чалавек, для якога няма нічога святога. Жыць і не заўважаць ва-кол сябе прыгажосці – гэта быць жывым трупам.

Але бліжэй да спра-вы. Нашы продкі цанілі прыгажосць, імкнуліся да ўсяго прыгожага. Доказ таму – цудоўныя палацы, храмы, выяўленчае ма-стацтва, кераміка, нацыя-нальнае адзенне і г.д. Мы бяром прыклад з культур-най Еўропы і самі ўносім дастойны ўклад у сусвет-ную культуру. Па неза-лежных ад нашых продкаў і нас абставінах многія з нас сталі ігнараваць прыга-жосць вакол нас. І па гэтай прычыне сталі дэградаваць маральна. А што мы маем на сёння? Нашы СМІ і дру-кары, асабліва электрон-ныя, культывуюць сярод нас дэвіз: "Узбагачайся і весяліся!" Да чаго многія і імкнуцца, асабліва мо-ладзь. Адзін з самых папу-лярных відаў - п'янства.

Але нават не так даўно мы былі іншыя. У 1939г. ле-там я ва ўзросце 3,5 гадоў добра запомніў адзін выпа-дак. У наша Баркоўшчына на веласіпедзе завітаў польскі паліцэйскі Далецкі. Напэўна, гэты эпізод так глыбока ўрэзаўся ў маю па-мяць, бо я ўпершыню так блізка ўбачыў веласіпед. Страж парадку прыбіраў наяўнасць таблічкі на вуглу дома і на калёсах, на якіх бацька ездзіў у Дзісну. На вуглу дома была і другая таблічка, з выявай багра і вядра. На выпадак пажару ў вёсцы бацька быў абавя-заны без каманды, сама-стойна з'явіцца на пажар з гэтым абсталяваннем. Страж парадку праверыў яго наяўнасць. Праверыў стан "устэмпа" (туалета), ці няма бур'яну на ме-жах, а галоўнае – ці няма самасаду-табакі на агарод-зе. Пры парушэнні любога з гэтых пунктаў паліцэйскі выпісваў штраф без якіх-небудзь настаўленняў, які гаспадар павінен быў аплаціць у гміне. Паколькі ў бацькі ўсё было ў парад-ку, страж парадку ветліва развітаўся і паехаў да су-седа.

У 1960г. мне давя-лося працаваць старшы-нёй Стэфанпольеўскага сельсавета, дзе сакрата-ром працаваў вопытны чалавек Лушчык Васіль Фёдаравіч. У кастрычніку сельсавет аб'ядналі з Мікалаеўскім, і нашы шляхі разышліся. Год пяць назад лёс ужо пенсіянера Лушчыка, закінуў у Дзісну. Сустрэліся як ста-рыя сябры. А галоўнае тое, што яго сын і дач-ка ўжо даўно жывуць у Амерыцы, у Чыкага, і з'яўляюцца грамадзянамі ЗША. Калі да іх прыехала дачка, я не мог прапусціць выпадак сустрэць грамад-зянку ЗША. Калі яе мама знаёміла мяне з ёй, то ска-зала, што я з'яўляюся ста-рэйшынай г. Дзісны. Дач-ка ўдакладніла, што гэта такая за пасада і ў чым яе абавязкі. Паслухаўшы мае функцыянальныя абавязкі, вельмі здзівілася. У ЗША гэта функцыі паліцыі. Паліцэйскі, які ўбачыў беспарадак, скла-дае прадпісанне, указвае тэрмін выканання і ве-шае на дзверы гаспадара. Калі ва ўказаны тэрмін уладальнік не выканае прадпісанне, ён карае-ца штрафам і атрымоўвае новае прадпісанне. Калі ж і новае прадпісанне праігнаравана, уладальнік атрымоўвае больш цяжкі штраф, а з бюро "добрых паслуг" накіроўваюцца спецыялісты, якія ліквідуюць беспарадкі, а за выкананую працу нядбайнаму гаспада-ру выстаўляецца разлік, які вельмі кусаецца. Калі гаспадар паспрабуе праігнараваць выплату штрафу або разліку, то праз суд ён панясе такія страты, што страшна падумаць. Таму домаўладальнікі ў ЗША стараюцца не даходзіць да паліцэйскіх прадпісанняў.

Ў Дзісне жыву з 1973 года, так распарадзілася партыя. Прыкладна да 1989 года вясной у го-радзе высаджваліся сотні дрэў. Але растуць толькі некалькі дзясяткаў. Толькі за апошні час выразалі парк каля пажарнай і аўтастанцыі, векавыя бя-розы каля бальніцы і мно-га адзінкавастаячых дрэў. І ўсё на паліва, на дровы.

За маю бытнасць некалькі разоў мянялі і фарбавалі агароджы па вуліцах Калініна і цэн-тральнай частцы вуліцы Юбілейнай. Прычына – па гэтых вуліцах ездзіць вы-сокае і не вельмі высокае начальства. Даходзіла да смешнага. З усіх гарад-жан збіралі грошы на так званую інфраструктуру. І з маёй пакойнай маці, 90-гадовай пенсіянеркі, у якой была калгасная пенсія. На гэтыя грошы заказалі шчыты адзінага фармату, паставілі іх уздоўж цэн-тральнай часткі вуліцы Юбілейнай. Тут, праўда, форма шчытоў была раз-настайная, пафарбавалі іх, правялі свята вуліцы Юбілейнай, і – о цуд, за добраўпарадкаванне сяму-таму ўручылі падарункі! А тыя бабулькі, якія здалі грошы на інфраструктуру, свае трухлявыя агароджы павінны былі рамантa-ваць за ўласныя мізэрныя пенсіі, прычым падарункаў ім ніхто не даваў.

З людзей, якія жывуць па тых вуліцах, выхавалі адпетых утрыманцаў. Не-каторыя пры сустрэчы на-хабна пытаюцца: "Старэй-шына, ці ты не бачыш, што каля майго дома агароджа развальваецца? Вы калі там думаеце новую паставіць? Ці чакаеце, калі я паскар-джуся ў адміністрацыю Прэзідэнта?" На справядлівую заўвагу, што неабходна калі ўжо не но-вую паставіць, то хаця б старую падрамантаваць, адказ стандартны: "Калі ўладам патрэбна, то няхай і рамантуюць, а ў мяне няма грошай" Хаця нярэдкія выпадкі (асабліва летам), калі п'яны ў сцельку га-спадар агароджы спіць пад агароджай – на выпіўку грошы знайшліся.

Не падумайце, што ў Дзісне ўсе лайдакі і гультаі. У нас многа гарад-жан, на дамы і двары якіх люба-дорага паглядзець, і сярод пенсіянераў, і сярод маладых сямей. Але, як га-ворыцца, паршывая авечка ўсё стада псуе.

Што тычыцца пра-пановы Алеся Гая, што кожны гаспадар абавяза-ны ва ўзорным парадку ўтрымліваць свой дом і двор, згодзен цалкам. Я аб гэтым не раз пісаў і ў сваю раённую газету, і ў "Народ-нае слова", але рэдакцыя ўмудраецца гладка абысці вострыя вуглы. Нішто так не псуе чалавека, як наяўнасць ільгот, імкненне прымкнуць да гэтых ільгот і хапнуць дармавога.

Добраўпарадкаванне – высакародная справа. А любая высакародная справа павінна рабіцца чыстымі рукамі. Ну, а калі ў чалавека не хапае розу-му, сумлення і разумення, што добраўпарадкаваннем свайго дома ён павінен займацца сам, патрэ-бен афіцыйны закон, які дазволіў бы яму дапа-магчы, як гэта робіцца ў ЗША і любых іншых цывілізаваных краінах.

